# Голас Радзімы

№ 19 (2109)
11 мая 1989 г.



ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.

Ішоў па вайне салдат. Па імені — Мікалай Герасіменка. Ад роду меў тады васемнаццаць гадоў. Беларускай нацыянальнасці. Па сямейным становішчы — халасты. Па званні — радавы, па ваеннай прафесіі — артылерыст. Страляў ён спраўна. Але і ў яго цэліліся метка. Таму, акрамя чатырох медалёў, атрымаў ён чатыры варожыя асколкі. А да маці прыйшла пахаронка... Забіты ва Усходняй Прусіі Мікалай Герасіменка... Але жывы застаўся салдат. І вярнуўся дамоў у свой Кармянскі раён. Працаваць пачаў. А медалі аддаў дзецям. Чужым. Сваіх не нажыў. Таму што Галіна Сільчанка, якая стала яго жонкай, таксама ішла салдатам па вайне. І таксама стала яе мішэнню. Вось такі салдацкі лёс.

Як не прыгадаць яго на 9 Мая, у Дзень Перамогі, аплачаны крывёю і жыццём мільёнаў такіх вось салдат.

НА ЗДЫМКУ: М. ГЕРАСІМЕНКА са сваёй жонкай Галінай.

Фота А. КЛЯШЧУКА.

# СВЯТА ПЕРШАМАЯ




Яшчэ адзін Першамай адзначыла наша краіна. Гэта свята выклікае асаблівыя пачуцці, бо яно звязана з вясной, абуджэннем прыроды, абнаўленнем. Здавалася б, яго аблічча прывычнае: маладая зеляніна і ласкавае сонца, асаблівая ўрачыстасць у кумачовым убранні гарадоў і вёсак. Але сёлета яно іншае, чым, скажам, усяго некалькі гадоў назад. І не трэба быць вельмі назіральным, каб убачыць — іншыя людзі гэтай раніцай прайшлі ў святочных калонах: больш адкрытымі сталі твары, яснымі — позіркі, больш упэўнены іх крок. Пачатая партыяй і падтрыманая народам перабудова, мяняючы наша жыццё, перш за ўсё звернута да чалавека, які з радавога выканаўцы дырэктыў ператвараецца ў актыўнага ўдзельніка руху перабудовы, паўнапраўнага гаспадара ў сваёй дзяржаве, на сваім заводзе, ля свайго станка, на сваёй зямлі.

У дні святкаванняў раней не было заведзена ўспамінаць аб недахопах, аб хібах. Сёння міністр і рабочы замест гучных рапартаў гавораць аб тым, што пакуль не зроблена, з аднолькавай зацікаўленасцю турбуюцца аб нашых агульных клопатах. Так, відавочныя цяжкасці ў правядзенні эканамічнай рэформы: яшчэ не радуюць багаццем прылаўкі, безліч сацыяльных праблем. Але словы «новае мысленне», «новы падыход», «дэмакратызацыя», «палітыка абнаўлення» ўжо знаходзяць канкрэтнае ўвасабленне ў жыцці. Успомнім праведзеныя выбары: ці ж гэта не сведчанне рэальных змяненняў! Сёння ўжо ёсць упэўненасць: узнімем мы і сельскую гаспадарку, узнімем і прамысловасць, таму што бярэцца за справу ўвесь народ.

Міралюбівая палітыка нашай краіны ва ўсім свеце асацыіруецца цяпер з паняццем «перабудова». З Масквы планета атрымала магутны імпульс ініцыятыў, накіраваных на неадкладнае спыненне і прадухіленне ў будучыні ўсіх ваенных канфліктаў.

Першамайскія ўрачыстасці, дэманстрацыі, народныя гулянні прайшлі ў сталіцы Беларусі Мінску, ва ўсіх кутках рэспублікі. А вечарам тысячы мінчан, гасцей з-за мяжы і іншых саюзных рэспублік любаваліся рознакаляровымі агнямі святочнага салюта.





НА ЗДЫМКАХ: Мінск. 1 Мая 1989 года. Дэманстрацыя працоўных на плошчы імя У. І. Леніна.

ПРЫСВЕЧАНЫ ВЫЗВАЛЕННЮ

## ВЕЧАР ДРУЖБЫ

У Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі адбыўся вечар грамадскасці, прысвечаны 44-й гадавіне вызвалення нямецкага народа ад фашызму. Яго адкрыў старшыня рэспубліканскага аддзялення Савецкага таварыства дружбы з ГДР, старшыня Дзяржкамвыда БССР М. Дзялец. Ад Мінскай секцыі Савецкага камітэта ветэранаў вайны да прысутных звярнуўся генерал-маёр авіяцыі ў адстаўцы В. Герасімаў, удзельнік дэмакратычных пераўтварэнняў у пасляваеннай Германіі В. Бярдзяеў расказаў аб укладзе нямецкіх антыфашыстаў у перамогу над нацызмам, генеральны консул ГДР у Мінску В. Янда ў сваім выступленні адзначыў паступальнае развіццё ўсебаковых адносін паміж ГДР і СССР.

Удзельнікі вечара дружбы з ГДР, на якім прысутнічалі намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР У. Мікуліч, міністр замежных спраў БССР А. Гурыновіч, а таксама консул ПНР у Мінску Х. Каліноўскі і гандлёвы прадстаўнік ЧССР у Мінску И. Гласны, накіравалі прывітальную тэлеграму ў адрас Цэнтральнага праўлення Таварыства германа-савецкай дружбы.

ШКОЛА МЕНЕДЖЭРАЎ

## ЗА ПАРТАМІ—КІРАЎНІКІ

У Віцебску пачала работу школа менеджэраў. За вучэбныя сталы селі каля пяцідзесяці спецыялістаў і кіраўнікоў прадпрыемстваў Віцебскай вобласці.

Дзеянні на міжнародным рынку, кіраўніцтва прадпрыемствам ва ўмовах поўнага гаспадарчага разліку і самафінансавання, асновы інфарматыкі, прынцыпы работы з замежнымі партнёрамі, стварэнне сумесных прадпрыемстваў і кааператываў, рацыянальнае выкарыстанне валюты, асновы псіхалогіі—гэтыя і іншыя пытанні будуць разглядацца ў час вучобы.

Заняткі праводзяць вучоныя, выкладчыкі маскоўскіх інстытутаў. Плануюцца сустрэчы са спецыялістамі з Польскай Народнай Рэспублікі.

Лекцыі ў школе менеджэраў будуць спалучацца з дзелавымі гульнямі, «круглымі сталамі», калектыўным разборам канкрэтных сітуацый, шырокім абменам вопытам і г. д.

Мэта заняткаў—не толькі даць спецыялістам новыя веды, але і забяспечыць іх комплекснай метадалогіяй. Гэта дазволіць сённяшнім слухачам праз пэўны час падзяліцца «скарбам» з іншымі кіраўнікамі і спецыялістамі свайго прадпрыемства.

Сярод слухачоў, навучанне якіх аплачваецца адпаведнымі ўстановамі, ёсць некалькі чалавек, якія вырашылі закончыць школу менеджэраў за свае ўласныя грошы.

ПРАЙШЛІ УРАЧЫСТАСЦІ

## 200-ГОДДЗЮ ФРАНЦУЗСКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ

У Мінску прайшлі ўрачыстасці, прысвечаныя 200-годдзю вялікай Французскай рэвалюцыі. Адкрыліся яны сустрэчай грамадскасці ў Палацы культуры прафсаюзаў. Французская буржуазная рэвалюцыя канца XVIII стагоддзя заклала асновы рэвалюцыйна-дэмакратычных традыцый народа, аказала вялікі і дзейсны ўплыў на гісторыю не толькі Францыі, але і многіх іншых краін, іх ідэалогію, мастацтва і літаратуру, падкрэслівалі ўдзельнікі сустрэчы—прадстаўнікі Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі, Беларускага аддзялення таварыства дружбы «СССР — Францыя», творчых саюзаў, навуковых і грамадскіх арганізацый рэспублікі і горада.

Яны гаварылі таксама аб развіцці сяброўскіх сувязей беларускай і французскай грамадскасці, гарадоў-пабрацімаў Ліёна і Мінска.

Вечарам у Палацы культуры прафсаюзаў адбыўся святочны канцэрт, працавалі выстаўкі старадаўніх французскіх кніг, работ беларускіх мастакоў В. Вярсоцкага, А. Казлоўскага, П. Масленікава, якія ў розныя гады пабывалі ў Францыі, дзіцячых малюнкаў «Мы малюем Францыю». Дэманстраваліся таксама французскія мастацкія фільмы і відэапраграмы, адбылася дэгустацыя страў французскай кухні.

ПОПЫТ РАСЦЕ

## ПІЯНІНА НА ЭКСПАРТ

Кожнае трэцяе піяніна, выпушчанае сёння Беларускім аб'яднаннем музычных інструментаў у Барысаве, будзе адпраўлена за мяжу. У чым сакрэт такога высокага попыту?

Замежным пакупнікам у першую чаргу падабаецца элегантнае сучаснае аздабленне піяніна—ад белага колеру да чорнага. Плюс аздабленне каштоўнымі пародамі драўніны—арэхам, чырвоным дрэвам, дубам. Надзейнасць у эксплуатацыі, даўгавечнасць. Менавіта гэтыя якасці і паставілі беларускае піяніна на замежным рынку ў адзін рад з вядомымі фірмамі ФРГ, Японіі, Карэі, Чэхаславакіі.

Мы экспартуем свае піяніна ў Галандыю, Францыю, Фінляндыю, Англію, КНР, Югаславію і іншыя краіны. У будучым годзе ўжо не кожнае трэцяе, а кожнае другое беларускае піяніна пойдзе за мяжу.

Сёння і ў будучыні асноўным пакупніком нашай прадукцыі становіцца галандская фірма «Піянафортэкс». У 1990 годзе ёй плануецца паставіць дзесяць тысяч піяніна—амаль палавіну гадавога выпуску.

ДАПАМАГЛА ПРЫРОДА

## КРЫНІЦА НА ДВАРЫ ЗАВОДА

Сама прырода дапамагла Магілёўскаму заводу напіткаў расшырыць асартымент прадукцыі: на яго тэрыторыі забіла крыніца мінеральнай вады. Яе злучылі з цэхам разліву безалкагольных напіткаў. І вось з канвеера прыняты і адпраўлены ў магазіны першыя сотні бутэлек з прыемнай на смак, асвяжаючай мінеральнай вадой, названай «Магілёўская».

Новая крыніца знаходзіцца ў гарадской мяжы. Па заключэнню вучоных, бліжэйшы аналаг гэтай вады—мінеральная тыпу «Дон». Рэкамендуецца як сталовая і як лячэбная пры хранічных гастрытах, калітах, захворваннях печані, страўніка, парушэннях абмену рэчываў і іншых хваробах.

Ужо сёлета на дзеючай вытворчасці завод выпусціць мільён бутэлек «Магілёўскай».

ДАБРАЧЫННЫЯ КАНЦЭРТЫ

## НА ЎЗВЯДЗЕННЕ ПОМНІКА

Цыганскія рамансы і табарныя песні, якія захаваліся ў першапачатковым выглядзе, прагучалі ў першыя дні мая ў перапоўненай канцэртнай зале Белдзяржфілармоніі на дабрачынных канцэртах «Вас запрашае Ала Баянава». Іх арганізавау Савецкі фонд культуры і Мінская епархія Рускай праваслаўнай царквы, якія запрасілі на гастролі ў Савецкі Саюз салістку Румынскага радыё і тэлебачання, вядомую ва ўсім свеце і як цудоўны прапагандыст савецкай эстраднай песні 30—50-х гадоў Алу Баянаву.

Сродкі, выручаныя ад канцэртаў Алы Баянавай, будуць пералічаны на рахунак Беларускага аддзялення Савецкага фонду культуры і пойдуць на ўзвядзенне помніка Францыску Скарыне ў Мінску і аднаўленне Полацкага жаночага манастыра.

НЕЗВЫЧАЙНАЯ ВЫСТАЎКА

## «ТЭАТР ПАШТОВАК»

Заслаўе—Смалявічы—Маладзечна—такі маршрут самадзейнага «тэатра паштоўкі». Жыхары трох гарадоў атрымалі магчымасць упершыню ўбачыць паштовыя адпраўленні больш чым стогадовай даўнасці. Экспануюцца зробленыя ў мінулым стагоддзі «партрэты» вядомых архітэктурных помнікаў, віды шэрагу еўрапейскіх гарадоў.

Цікава, што гэтая ж выстаўка, якая праходзіла ў сакавіку ў Мінску, была беднейшай на экспанаты. За тры тыдні паказу ў сталіцы Беларусі яна папоўнілася паштоўкамі, якія перадалі арганізатарам—творчаму аб'яднанню «Дружба»—наведвальнікі.

*ПЕРАБУДОВА Ў СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРЦЫ*

# МНОГАВАРЫЯНТНАСЦЬ ФОРМ РАЗВІЦЦЯ

**Сакавіцкі Пленум ЦК КПСС, прысвечаны аграрнай палітыцы КПСС у сучасных умовах, прыняў разгорнутую пастанову. У сувязі з гэтым карэспандэнт Агенцтва друку Навіны звярнуўся з пытаннямі да акадэміка Уладзіміра ЦІХАНАВА.**

*— Што, на ваш погляд, з'яўляецца галоўным у рашэннях Пленума?*

— Я думаю, што ўпершыню ў нас прыйшлі да разумення таго, што сельская гаспадарка, якая базіруецца толькі на саўгасах і калгасах, не можа выйсці са стану перманентнага крызісу. На Пленуме выбраны правільны, рэалістычны шлях. Ён заключаецца ў тым, каб даць селяніну права выбіраць, якая форма гаспадарання з'яўляецца ў даных канкрэтных умовах найбольш рацыянальнай. Няхай застаюцца калгасы і саўгасы там, дзе яны працуюць дастаткова эфектыўна на цяперашні час. Разам з тым няхай ствараюцца і малыя земляробскія кааператывы, заснаваныя на імкненні да добраахвотнага злучэння прыватнай уласнасці сялян, няхай ствараюцца сямейныя сялянскія фермы, заснаваныя непасрэдна на працы членаў сям'і, няхай узнікаюць любыя іншыя гаспадарчыя формы, якія могуць паспяхова канкурыраваць з калгасамі і саўгасамі.

Глыбінны эканамічны сэнс гаспадарчай рэформы, якая цяпер намячаецца, заключаецца ў тым, каб аддзяліць гаспадаранне на зямлі, гэта значыць валоданне зямлёй як аб'ектам гаспадаркі, ад дзяржаўнай уласнасці на яе. Быць уласнікам—гэта не значыць абавязкова непасрэдна распараджацца, кіраваць і карыстацца зямлёй. Уласнік можа перадаць зямлю таму, хто яе апрацоўвае, будучы на ёй самастойным гаспадаром. Задума рэформы заключаецца ў тым, каб, не разбураючы дзяржаўнай уласнасці на зямлю, перадаць яе селяніну на вечнае, па сутнасці справы, валоданне, каб ён адчуваў сябе самастойным гаспадаром на гэтай зямлі. І аддзяліць гаспадаранне на зямлі ад дзяржаўнага апарату, забараніць яму ўмешвацца ў гаспадарчую дзейнасць.

У нашых умовах, як уяўляецца, найлепшай арганізацыйнай формай такога суіснавання гаспадара на зямлі—селяніна, з аднаго боку, і ўласніка зямлі—дзяржавы, з другога, з'яўляюцца арэндныя адносіны. Дзяржава зямлю аддае тым, хто яе апрацоўвае, на пачатках арэнднага дагавора за дакладна акрэсленую плату. Гэта служыць гарантыяй гаспадарчай самастойнасці селяніна і неўмяшання ў яго дзейнасць з боку дзяржавы. Арэндная плата і падаходны падатак выступаюць адзінай формай узаемасувязі гаспадарніка і ўласніка. Усе астатнія формы сувязі ідуць праз рынак. Менавіта ў гэтым, на мой погляд, заключаецца самы істотны змест той зямельнай рэформы, з якой выступіў на Пленуме М. С. Гарбачоў.

*—У чым вы бачыце галоўную цяжкасць у рэалізацыі рашэнняў Пленума?*

— Мы мяркуем, што перабудова гаспадарчага жыцця ў краіне будзе вельмі цяжкай і, відаць, працяглай, таму што за 60 гадоў у нас сфарміравалася гаспадарчая сістэма, асновай якой з'яўляецца дзяржаўная эканоміка. Манапалізм пранізвае ўсё наша жыццё. Ён і ў эканоміцы, і ў палітыцы, усюды. І самая цяжкая наша задача цяпер— гэта барацьба з існуючай гаспадарчай сістэмай, якая ў аграрным сектары праяўляецца ў выглядзе манапольнага панавання калгасаў і саўгасаў.

*— Ці змяніліся вашы ўяўленні аб тэрмінах пераходу да новага гаспадарчага механізма, якія ў 1986 годзе вы вызначалі ў 4 гады, гэта значыць да канца гэтай пяцігодкі?*

— Я крыху па-іншаму падыходзіў да гэтага пытання, разглядаючы пераходны перыяд як перыяд шырокамаштабнага эксперымента новай гаспадарчай сістэмы ў пэўных адносна адасобленых рэгіёнах краіны. Я і цяпер лічу, што калі б мы пайшлі па гэтаму шляху, то ўжо цяпер мелі б так ці інакш адпрацаваны механізм гаспадарчай сістэмы. Але гэтага не адбылося. Таму, на мой погляд, наш шлях будзе больш працяглым, чым той, які мы прадугледжвалі.

**Міхаіл ВІНАГРАДАЎ.**

*ПЕРАПРАФІЛІРАВАННЕ ВАЕННЫХ ЗАВОДАЎ*

# ШТО ВЫЙГРАЕ СПАЖЫВЕЦ?

**Выказванне «Перакуём мячы на аралы!» набывае сёння рэальны змест. Здадзены на злом першыя ядзерныя ракеты. Урад СССР адобрыў праграму перапрафіліравання на выпуск тавараў народнага спажывання шэрагу дзеючых прадпрыемстваў абаронных галін прамысловасці. Журналіст Вячаслаў ХАДАСОЎСКІ расказвае, як яна ажыццяўляецца на беларускай зямлі.**

Завод «Тэрмапласт» амаль у цэнтры Мінска. Не скажу, што журналісты не ведалі сюды дарогі. Але прадпрыемства аднесена да абароннай галіны аднаго з міністэрстваў, і зона публічнасці аб яго рабоце была абмежавана. А як жа цяпер?

...Я ў цэху тавараў народнага спажывання завода. Выпускаюць іх тут ужо больш дзесяці гадоў, у сярэднім каля 25 назваў у год. І ўвесь гэты час аб'ём вытворчасці павялічваўся. Цяпер на «Тэрмапласце» на рубель фонду зарплаты выпрацоўваецца рубель семдзесят тры капейкі тавараў народнага спажывання. Для параўнання: на неспецыялізаваных прадпрыемствах грамадзянскіх галін такі паказчык роўны ў Беларусі васьмідзесяці капейкам на рубель.

— Бытавыя тавары ў рэгіёне выпускаюць усе прадпрыемствы абароннага сектара яшчэ з сярэдзіны сямідзесятых гадоў, — гаворыць старшыня Дзяржплана Беларускай ССР Вячаслаў Кебіч.— Тады ж быў створаны дзеючы і па сёння Каардынацыйны савет Беларускай ССР і рэспублік Прыбалтыкі па выпуску тавараў народнага спажывання (пазней да яго падключылася Малдавія). Кампетэнцыя яго распаўсюджваецца і на абаронныя прадпрыемствы. Асноўную долю сярод мірнай прадукцыі абаронных заводаў рэгіёна займае бытавая тэхніка, тэле- і радыёэлектронная апаратура, фотаапаратура, электронныя наручныя гадзіннікі. У 1988 годзе яны выпусцілі тавараў народнага спажывання на агульную суму звыш 1,7 мільярда рублёў. За бягучую пяцігодку сярэднегадавыя тэмпы прыросту іх выпуску складуць 10,3 працэнта.

Але ў пераходзе ад вытворчасці абароннай прадукцыі да грамадзянскай не ўсё проста. У тых жа цэхах «Тэрмапласта» зборачныя лініі, як было відаць, прастойвалі. Інжынер-тэхнолаг, які суправаджаў мяне, растлумачыў, што не хапае камплектуючых электрарухавікоў.

**— Выходзіць, і ў абаронных галінах, якія прынята было лічыць па-за звычайнымі эканамічнымі бедамі, маюцца тыя ж неналаджаныя ўзаемасувязі і недахоп матэрыялаў, магутнасцей, камплектуючых дэталей?— задаю пытанне Вячаславу Кебічу.**

— Зразумела, дзейнічаюць абаронныя галіны не ў вакууме. І хаця ў канкрэтным выпадку зрыву выпуску пральных машын вінавата саюзнае міністэрства, якое не адносіцца да абаронных, свае праблемы ёсць і ў ваенных прадпрыемстваў рэгіёна. Напрыклад, у адносінах некаторых кіраўнікоў да тавараў народнага спажывання як да нечага другараднага.

**— Ці існуюць рэальныя перспектывы іх вырашэння?**

— Перш за ўсё важна падкрэсліць, што покрывы сакрэтнасці не адгароджваюць гэтыя прадпрыемствы ад перабудовы. Прынятае ўрадам рашэнне аб перапрафіліраванні не толькі дапаможа ўзбагаціць нашы прылаўкі новымі таварамі, але і зменіць адносіны да заданняў па выпуску тавараў для насельніцтва як да нявыгаднай даважкі. Паскорыцца пераход участкаў шырспажыву на прынцыпы гасразліку, укараненне больш гібкіх форм арганізацыі вытворчасці, у тым ліку і з прыцягненнем каапе[illegible]ваў, стварэнне невялікіх, здольных апера[illegible]а мяняць асартымент участкаў.

Больш высокі тэхнічны ўзровень аснашчэння абаронных вытворчасцей, кваліфікаваныя кадры, ды і тэхналагічная дысцыпліна дазваляюць спадзявацца, што прагрэс будзе рэальны. Тым больш, што намечаны канкрэтныя [illegible]рамы. Скажам, стварэнне новых цэхаў і [illegible]сткаў як за кошт перапрафіліравання, так і за кошт капітальнага будаўніцтва, у тым ліку і гаспадарчым спосабам. Дарэчы, такім чынам прадугледжваецца павялічыць выпуск электрарухавікоў для бытавой тэхнікі. Прадумана больш развітая ўзаемавыгадная кааперацыя з сумежнымі галінамі. Дэфіцытны электрапрывод для швейных машын, напрыклад, асвоены адным з такіх заводаў сумесна з магілёўскім — «Электрарухавік».

**— Чым жа папоўніцца асартымент тавараў для народа за кошт пачатага ў рэгіёне перапрафіліравання?**

— Перш за ўсё трэба чакаць зрухі ў выпуску тавараў на падставе вылічальнай тэхнікі і электронікі. У школах ужо знаёмы з нашымі камплектамі тэхнічных сродкаў «Корвет» для кабінетаў вылічальнай тэхнікі. Але іх крайне не хапае, і вытворчасць будзе нарошчвацца. Акрамя таго, завершана распрацоўка новага комплексу «Няміга». Яго серыйны выпуск пачнецца ўжо ў 1989 годзе. Вядзецца распрацоўка і ў бліжэйшыя гады пачнецца выпуск сучасных бытавых камп'ютэраў, праграмна і апаратна сумяшчальных з ЭВМ Адзінай сістэмы. У кааперацыі з прадпрыемствамі грамадзянскіх галін абаронныя вытворчасці змогуць павялічыць выпуск бытавых халадзільнікаў. Для выпуску міні-трактароў намячаецца арганізаваць вытворчасць дызельных рухавікоў малой магутнасці. Рыхтуецца выпуск лазерных гуказнімальнікаў для лічбавых гукавых лазерных прайгравальнікаў, а ў далейшым у кааперацыі з іншымі прадпрыемствамі і саміх прайгравальнікаў.

**— Нядаўна абаронным галінам перададзены прадпрыемствы былога Мінлегхарчмаша СССР, які аказаўся не ў стане справіцца з выпускам добрага абсталявання для перапрацоўкі прадукцыі палёў і ферм.**

— Новыя «падшэфныя» для абароншчыкаў, вядома, не падарунак. Але з дапамогай іх развітой навуковай і праектна-канструктарскай базы можна змяніць становішча да лепшага. У беларускім рэгіёне, напрыклад, ужо пачалі стварэнне прынцыпова новых відаў камплектнага тэхналагічнага абсталявання на базе найноўшых дасягненняў тэхнікі. У планах абаронных прадпрыемстваў — 68 назваў тэхнікі для першаснай перапрацоўкі жывёлы і птушкі, 41 від тэхналагічнага абсталявання для другаснай перапрацоўкі мяса і іншай тэхнікі. Гэта істотны ўклад у тэхнічнае перааснашчэнне прадпрыемстваў галін аграпрамысловага комплексу.

**— Мяркуючы па ўсім рашэнне ўрада не разыходзіцца са справаай?**

— Думаю, што спажыўцы хутка змогуць адчуць гэта самі.

**СТВОРАНЫ ДОБРЫЯ ЎМОВЫ ДЛЯ ПРАЦЫ І АДПАЧЫНКУ**



**Маладзечанскае вучэбна-вытворчае аб'яднанне Беларускага таварыства сляпых — адно з тых прадпрыемстваў, дзе створана магчымасць працаваць людзям, якія страцілі зрок. Тут аказваюць разнастайную дапамогу тым, хто жадае атрымаць прафесію, скарыстоўваючы пры гэтым метады спецыяльнай падрыхтоўкі за кошт укаранення тыфлатэхнічных сродкаў, прыбораў, дапаможнікаў. Многія з трэнажораў ствараюцца тут жа, у канструктарскім бюро.**

**Прадпрыемства працуе на гасразліку. Заробленыя ўмелым гаспадараннем сродкі калектыў і па-гаспадарску скарыстоўвае. У аб'яднанні створаны не толькі спрыяльныя ўмовы для працы. Тут маюцца і сталовыя, паліклініка, канферэнц-зала для правядзення розных мерапрыемстваў, абсталяваны зручныя пакоі гігіены.**

**Выпускаюць у аб'яднанні тавары народнага спажывання. Акрамя Савецкага Саюза, вырабы адпраўляюцца ў дзесяць замежных краін, у тым ліку ў Англію, ФРГ, Венгрыю, Чэхаславакію і іншыя.**

**НА ЗДЫМКАХ: новы будынак Маладзечанскага вучэбна-вытворчага аб'яднання Беларускага таварыства сляпых; для ўсіх прадпрыемстваў таварыства канструююць аснастку для вырабу дэталей інжынеры-канструктары Нара АНДРУХІНА і Таіса ПЯТРОВА.**

**Фота В. АЛЯШКЕВІЧА.**



*УМАЦОЎВАЮЦЦА СУВЯЗІ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА» З БЕЛАРУСАМІ Ў ПОЛЬШЧЫ*

# НОВАЙ СЦЕЖКАЙ, АЛЕ ПА ЗААРАНАЙ ГЛЕБЕ

**Мы пісалі ўжо, што ў пачатку красавіка Мінск наведала дэлегацыя Беларускага грамадска-культурнага таварыства з Беластока. У адзін з дзён члены яе былі гасцямі нашай рэдакцыі. Старшыня галоўнага праўлення БГКТ пісьменнік Аляксандр БАРШЧЭЎСКІ (Алесь Барскі) даў інтэрв'ю для газеты «Голас Радзімы».**

**— Пан Баршчэўскі, прыгадваючы сваё падарожжа сюды да нас, вы сказалі, што таможнік на польска-савецкай граніцы назваў вас беларускімі эмігрантамі...**

— Так, даведаўшыся пра назву арганізацыі — Беларускае грамадска-культурнае таварыства, якую мы прадстаўляем, ён спытаў нас, ці мы беларускія эмігранты. Пытанне гэта, вельмі характэрнае і сімптаматычнае, сведчыць аб узаемным няведанні сітуацыі беларусамі і ў Польшчы, і ў Савецкім Саюзе. Сведчыць гэта таксама і аб тым, што існуе пільная патрэба ў пашырэнні ўзаемнай інфармацыі і ўзаемных кантактаў.

З прыемнасцю хачу адзначыць, што ў апошнія гады, і асабліва месяцы, усё часцей з'яўляюцца ў беларускай прэсе матэрыялы, у якіх расказваецца аб жыцці беларусаў у Польшчы. А тыя, хто прачытае маё інтэрв'ю, даведаюцца, адкуль мы і хто такія. Хачу падкрэсліць, што беларускае насельніцтва, якое жыве ва ўсходняй частцы Беласточчыны,— карэннае беларускае. Яно не з'явілася на гэтай зямлі ні з волі якога-небудзь рускага цара, ні польскага караля, яно там адвечнае, як рэкі і камяні, поле і дрэвы.

**— Дзе яшчэ, акрамя Беласточчыны, жывуць беларусы ў Польшчы і колькі наогул іх там!**

— Роднай зямлёй беларусаў з'яўляецца ўсходняя Беласточчына, таму іх найбольш там, ёсць цэлыя беларускія вёскі. Але не толькі. У выніку міграцыі многа беларусаў асела ў тыпова польскіх гарадах — Варшаве, Гданьску, Вроцлаве і іншых. Праўда, некаторыя з гэтых беларусаў дэнацыяналізаваліся, забыліся родную мову, але ў многіх мова захоўваецца. Што датычыцца колькасці беларусаў у Польшчы, дык канкрэтна адказаць цяжка. Справа ў тым, што ў гэтай галіне ніколі не вялася акрэсленая статыстыка, ні ў якіх апытальніках не было рубрыкі «нацыянальнасць». Абапіраючыся, між іншым, на веравызнанне, можна гаварыць, што ў Польшчы жыве 350 тысяч беларусаў. Ёсць сцвярджэнні, што нас аж 500 тысяч. Вось на гэтым грунце дзейнічае БГКТ.

**— Раскажыце, калі ласка, аб дзейнасці той арганізацыі, якую вы прадстаўляеце.**

— Беларускае грамадска-культурнае таварыства ўзнікла ў 1956 годзе. Зрабіла наша арганізацыя можа і не ўсё, але вельмі многае з таго, што было магчыма, калі гаварыць аб захаванні беларускай духоўнай і культурнай субстанцыі ў ПНР.

**— Якія ж галоўныя, прыярытэтныя галіны дзейнасці гэтай арганізацыі!**

— Першая — гэта аматарскі вакальны рух. Маем каля 50 невялікіх мастацкіх калектываў, якія дзейнічаюць у асноўным па вёсках. Маем і 4 вялікія: у мястэчку Гарадок, у Беластоку, Гайнаўцы і Бельск-Падляску. На іх утрыманне маем вялікую дапамогу з боку дзяржавы.

Кожны год, найчасцей у красавіку, арганізуем агляд народнай песні, а ў чэрвені (прымяркоўваем да Купалля) праводзім свята беларускай песні. Пацешальна ў апошні час тое, што ў аглядах і святах прымаюць удзел калектывы з Савецкай Беларусі, пабывалі ўжо ў нас «Лявоны», «Музыкі», «Бонда». Нашым калектывам у параўнанні з вашымі не хапае дынамікі руху, прафесіяналізму. Адным словам, трэба вучыцца.

**— У мінулым годзе ў Мінску на курсах па запрашэнню таварыства «Радзіма» займаліся ў інстытуце культуры артысты-аматары з Беласточчыны. Як, на вашу думку, справа гэта карысная!**

— Гэта форма зносін новая для нас, але, несумненна, надзвычай карысная. І датычыць гэта не столькі артыстаў, колькі інструктараў мастацкага руху. Яны атрымліваюць на курсах вялікую дозу інфармацыі і прафесійных ведаў.

Аднак вернемся да дзейнасці БГКТ. Другая галіна нашай прыярытэтнай дзейнасці — школьніцтва. Тут, на жаль, не можам пахваліцца вялікімі дасягненнямі.



Дэлегацыя БГКТ у рэдакцыі газеты «Голас Радзімы». Крайні справа—Аляксандр БАРШЧЭЎСКІ.

Праўда, у Варшаўскім універсітэце ёсць кафедра беларускай філалогіі, якой я загадваю. Маем добрыя беларускія ліцэі ў Гайнаўцы і Бельск-Падляску, аднак зацікаўленне роднай мовай у беларусаў падае. Галоўная прычына, што радыкальна адмоўна адбіваецца на колькасці вучняў, якія вывучаюць мову, здаецца мне, у тым, што прадмет мовы для беларускіх дзяцей не мае таго ж статуса, як іншыя прадметы. Адбываецца дыскрымінацыя ў параўнанні з іншымі прадметамі.

Наступная з ін, якімі мы займаемся, звязана з лі урным рухам. Літаратурны рух беларусаў у Польшчы пачаў развівацца разам з узнікненнем БГКТ у 1956 годзе. Віктар Швед, Сакрат Яновіч, Алесь Барскі і некаторыя іншыя далі пачатак творчай арганізацыі «Белавежа». Яна выдала ч ы альманахі, больш за 20 зборнікаў, . лены часта выступаюць на аўтарскіх сустрэчах. Усё гэта, несумненна, служыць справе захавання беларускай свядомасці і мовы. Калі гаварыць аб рангу беларускага літаратурнага руху ў Польшчы, то варта сказаць, што 8 членаў «Белавежы» прыняты ў Саюз польскіх пісьменнікаў. У апошні час з'явілася магчымасць друкавацца ў Савецкім Саюзе, у беларускіх выдавецтвах, што для нас надта важна.

Наступны напрамак дзейнасці таварыства, бадай што, зусім новы. Гэта пабудова Беларускага музея ў Гайнаўцы. Поўная назва яго (пакуль не канчатковая) Музей помнікаў беларускай матэрыяльнай культуры і рэвалюцыйнага руху. Складацца ён будзе з трох будынкаў агульнай плошчай 2 700 квадратных метраў.

Экспанаты збіраем па вёсках, дзе яшчэ захавалася даволі многа рэліктаў беларускай культуры, звязаных з апрацоўкай зямлі, ткацтвам, рознымі тыпамі рамяства. Верым, што будучы музей узбудзіць сярод беларускага насельніцтва пачуццё гордасці за нашых продкаў, якіх мы сёння яшчэ часам, бывае, па несвядомасці саромеемся. З другога боку, музей, які будуць наведваць не толькі беларусы, але людзі з усёй Польшчы і з усяго свету, засведчыць перад імі вялікае ўмельства і мастацтва нашых народаў.

Справа з пабудовай музея вялікая і дарагая. Ахвярнасць праяўляе беларускае насельніцтва ў Польшчы, аб чым сведчаць іх даткі. Хацеў бы падкрэсліць ахвярнасць беларусаў з Захаду, якія сабралі на музей 13 тысяч долараў. У апошні час мы адчулі вялікую зацікаўленасць з боку Беларускага таварыства «Радзіма» і, дзякуючы яго клопатам, пачалі атрымліваць даткі з Беларусі.

У рэспубліканскім жылсацбанку горада Мінска гэтай арганізацыяй адкрыты бягучы рахунак № 141713, на які могуць пералічваць ахвяраванні прадпрыемствы і ўстановы, а таксама асобныя грамадзяне, якія жадаюць дапамагчы ў будаўніцтве музея ў Гайнаўцы. І такі стан рэчаў нас моцна цешыць.

**— Вы ўжо некалькі разоў успаміналі Беларускае таварыства «Радзіма». Мяркуючы па ўсім, кантакты БГКТ з гэтай арганізацыяй становяцца ўсё больш шырокімі!**

— Так, хацеў бы падкрэсліць вельмі пазітыўны момант: таварыства «Радзіма», якое раней цікавілася толькі беларусамі на Захадзе, звярнула ўвагу і на нас. Сёння мы маем цесныя кантакты. Якраз і мы прыехалі як афіцыйная дэлегацыя па запрашэнню таварыства «Радзіма». Успамінаў ужо курсы, на якіх займаюцца кіраўнікі мастацкіх калектываў. Летась у піянерскім лагеры адпачывала некалькі дзяўчынак, якія вывучаюць беларускую мову. Сёлета першы раз прыедуць на курорт нашы пенсіянеры. Выпускнікі ліцэяў будуць прыязджаць у беларускія ВНУ на вучобу.

**— З беларусамі на Захадзе БГКТ таксама падтрымлівае кантак**

— Існуюць у нас кантакты і з заходняй беларускай эміграцыяй. Праўда, яны не такога характару, як з Савецкай Беларуссю. Гэта адносіны неафіцыйныя. Мы не абменьваемся дэлегацыямі, але бываем на Захадзе, і люд туль штораз прыязджаюць да нас, раяўляюць цікавасць да нашых спраў.

Адным з першых, ці, бадай, першым беларусам, які прыехаў да нас адтуль, быў спявак Міхал Забэйда-Суміцкі.

**— Якое ваша асабістае ўражанне аб гэтым выдатным артысце і чалавеку!**

— Я яго сустракаў у Варшаве, а потым мы разам паехалі на Беласточчыну, і там ён прабыў некалькі дзён. Гаварыў я з ім многа. Час жа тады (1956 год) быў намнога цяжэйшы, чым цяпер, яшчэ поўнай шчырасці паміж людзьмі не было. Думаю, не ўсё ён гаварыў, што хацеў, і не ўсё я гаварыў. І ўсё ж апавядаў Міхал Забэйда пра сябе многа і даволі адкрыта. Для мяне гэта быў новы свет, бо я цікавіўся раней толькі літаратурай. Што датычыцца яго як артыста, то выглядаў ён не найлепш, быў моцна худы, кашляў часта. Мне здалося, што чалавек з такімі ўласцівасцямі спяваць добра не патрапіць. Але ён сказаў: не перайма́йцеся, калі выйду на сцэну, усё будзе ў парадку. І сапраўды спяваў ён прыгожа, спяваў чыста, быў чалавекам натуральным, не меў тэатральнай маскі. Мне здаецца, што на працягу ўсяго жыцця гэта быў не палітык, а мастак і што калі быў палітыкам, то вельмі малым, а мастаком — вялікім. Тое, што ён даваў беларускія канцэрты ў час акупацыі, я лічу, ніякі не грэх, а наадварот, мужнасць. Асабіста я не рэабілітую толькі тых, хто ўзяў разам з немцамі зброю ў рукі, забіваў людзей, або тых, хто іншых непасрэдна да гэтых учынкаў скіроўваў.

**— У вашай арганізацыі, мусіць, як у кожным такім асяродку, ёсць свае складанасці, свае здабыткі І нешта такое, што хацелася б зрабіць лепш. Якія праблемы хваляюць кіраўніцтва БГКТ!**

— Праблем вельмі многа. Галоўная — гэта традыцыйная абыякавасць беларусаў. У нас рэвалюцыйная свядомасць значна апярэджвала і апярэджвае свядомасць нацыянальную.

З другога боку, ёсць у апошнім часе і праявы радасныя. Была небяспека, што моладзь дэнацыяналізуецца, ніякай карысці з яе не будзе, аднак сёння выразна выступаюць адраджэнцкія тэндэнцыі сярод моладзі, якая часам выказвае нам прэтэнзіі і нават варожасць. Я гэтаму не здзіўляюся, бо сам некалі быў такім. Думаю, ніколі новае пакаленне не пакіне па сабе прыкметнага следу, калі будзе ісці пратаптанай сцежкай. Трэба ісці новым месцам, але найлепш па заараной глебе.

Некалькі месяцаў назад у нас узнікла афіцыйна зацверджаная маладзёжная арганізацыя Беларускі акадэмічны саюз (БАС). Магу толькі пажадаць ёй, яе членам, каб той энтузіязм і тая вера, якія ў іх ёсць, не пакінулі іх у далейшым.

**— Як, на вашу думку, газета «Ніва» адлюстроўвае справы і праблемы БГКТ!**

— Афіцыйна яна орган нашай арганізацыі, але захоўвае вялікую ступень аўтаноміі. Адзінае, на што мы ўплываем, гэта на выбар рэдактара. «Ніва» — газета і для сялян, і для рабочых, і для вучняў, і для пенсіянераў. Яна павінна насіць універсальны характар, каб дагадзіць усім. Чытачы нашы адзначаюць, што ў апошні час газета зрабілася больш смелай, ажывілася.

**— У чым гэта смеласць выражаецца!**

— Былі часы, калі лічыліся нацыяналістычнымі і нельга было напісаць у «Ніве» словы «нацыянальная свядомасць», «патрэбы беларускай нацыянальнай меншасці», «беларуская спецыфіка ў Польшчы», таму праблематыка газеты зводзілася да апісання сялянскага бытавізму.

Цяпер газета смела піша аб патрэбах і крыўдах нацыянальнай меншасці не толькі ў санацыйнай Польшчы, але і ў сацыялістычнай. Навізна і ў тым, што яна шырока адлюстроўвае маладзёжныя тэндэнцыі і ў нас, і ў вас.

**— Пан Баршчэўскі, вы казалі, што прыязджаеце ў Беларусь мо ўжо 80-ты раз. Ці заўважаеце вы ў нас якія-небудзь зрухі ў нацыянальным плане, ці ёсць паварот да беларускай мовы! Збоку ж лепш відаць.**

— Я больш як 80 разоў быў у Беларусі. Першы раз прыязджаў у 1957 годзе. Бываю, гляджу, слухаю і, несумненна, параўноўваю. Тое, што было, трагічна. Гэта драма, калі нават носьбіты беларускага літаратурнага слова, журналісты, мастакі не хацелі або не маглі даносіць яго да сваіх дзяцей, да свайго акружэння. Што датычыцца змен, ёсць яны, канешне, сёння і ў прэсе, і на радыё, і на тэлебачанні, ёсць яны і ў свядомасці чалавечай. Асабліва ў моладзі. Часам беспардонная, бескампрамісная, якая можа нарабіць і глупстваў, але яна — наша будучыня. І нягледзячы на тое, што многае ў ёй нам не падабаецца, мы не можам яе адкідаць. Мы можам толькі радавацца, што білі пад лёдам жывыя крыніцы, яны прабіліся і пачынаюць звінець сваёй роднай песняй.

**— У адным з апошніх нумароў газеты «Літаратура і мастацтва» быў надрукаваны артыкул Пімена Панчанкі...**

— Я чытаў гэты артыкул і цалкам згодны з яго пастулатам. Гаворка ідзе аб наданні беларускай мове статуса дзяржаўнай, наданні ёй таго рангу, які яна мела, калі стасавалася на Беларусі ленінская нацыянальная палітыка. Маю на думцы беларусізацыю 1922—1927 гадоў. Беларуская мова была мовай Чарвякова, Галадзеда, Цішкі Гартнага...

Думаю, што сёння адрадзіць беларускую мову значна лягчэй, чым гэта было пасля рэвалюцыі, бо ёсць кнігі, асвета, настаўнікі, ёсць тэлебачанне, ёсць усе тыя фактары, якія павінны паслужыць беларускаму адраджэнню.

**— А як вы ставіцеся да беларускай літаратуры, хто з пісьменнікаў вам найбольш блізкі!**

— Гэта, лічу, справа суб'ектыўная. Я гісторык літаратуры, сам пішу. Маю сваіх любімцаў сярод беларускіх пісьменнікаў. Можа, гэта не заўсёды тыя, хто афіцыйна ставіцца на першым месцы. Для мяне найвыдатнейшымі постацямі ў беларускай літаратуры з'яўляюцца Максім Багдановіч, ранні Дубоўка, ранні Пушча. А з сучасных, несумненна, Васіль Быкаў. На апошнім з'ездзе БГКТ у кастрычніку мінулага года я запрапанаваў, каб наша таварыства звярнулася да Шведскай акадэміі навук з просьбай прысудзіць пісьменніку Нобелеўскую прэмію.

А калі гаварыць увогуле аб беларускай літаратуры, то яна мяняецца. З гарачу чытаю ранейшыя вершы выдатных беларускіх паэтаў, якія бачылі крыўду афрыканцаў, чылійцаў, а не бачылі праблем уласных. Сёння літаратура перастае служыць ідалу маны. У свеце, на жаль, увогуле так адбываецца, што бог сілы мае больш вернікаў, чым бог праўды. Але ідэалам беларускай літаратуры становіцца праўда. І трэба радавацца, што мы дажылі, убачылі гэты працэс.

**— Вялікае дзякуй, пан Баршчэўскі, за цікавую змястоўную гутарку.**

**Інтэрв'ю ўзяла Дзіяна ЧАРКАСАВА.**





На арэне Мінскага дзяржаўнага цырка — новае вялікае прадстаўленне «Інтэрцырк». У праграме — выступленні жанглёраў, эквілібрыстаў, акрабатаў і майстроў іншых жанраў з Венгрыі, Польшчы, Балгарыі, Манголіі, ГДР. Сваё мастацтва паказваюць таксама дрэсіроўшчыкі галубоў і мядзведзяў. І, вядома ж, увесь вечар забаўляюць гледачоў клоуны — заслужаныя артысты БССР Фёдар Гулевіч і Аляксандр Варанецкі.

НА ЗДЫМКАХ: выступаюць артысты з Манголіі НАРАЎСАМБУУ і ЭНХЦЭЦЭГ; з дрэсіраванымі галубамі Чэслаў ГРУШКОЎСКІ з Польшчы.

Фота Ю. ПАЎЛАВА.

# СКРЫПКІ ЮСІФА ДУДАРЭВІЧА

(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).

як на мандаліне такт адбіваць. Пачалі ўтрох падраджацца граць на вяселлях, дажынках. Моладзь да сябе цягнула, на вечарынкі...

— Падабалася быць на людзях?

— Го, гэта ж такая раскоша! Гоман, прыбраны люд, узрушэне—і ты навідавоку. У сваіх жа вачах бы на драждажах рос. Асабліва, калі мандаліну сам змайстраваў. Меў тады дваццаць два гадочкі. А яшчэ праз два гады і першая скрыпка на свет з'явілася. Трыо наша па ўсёй ваколіцы славілася...

Бацька прыкмячаў, што па нутры мне справа тонкая, забаўная. Прапытаў таго-сяго, з'ездзіў у Баранавічы. Так я апынуўся там вучнем сталяра-чырванадрэўшчыка. Атрымаў спецыяльнасць, з ёй кавалак хлеба. Трэба было ўжо сям'ю карміць. Але гаспадар майстэрні трапіўся сквапны, плаціў мала, ды і занятак не падабаўся...

Інакш, відаць, і быць не магло. Мэбля—мэбляй, а ўжо чатыры скрыпкі Дударэвіча весялілі людзей, ствараючы маладому майстру аўтарытэт чалавека грунтоўнага. І дзіўным чынам уплывалі на лёс. Прайшоў вайну ў партызанскім атрадзе, у цяжкі пасляваенны час як супрацоўнік міліцыі наводзіў парадак і законнасць на тэрыторыі раёна, змяніў затым некалькі прафесій, а прызнанню свайму застаўся верны. Цяпер камуніст, кавалер ордэна Айчыннай вайны другой ступені і дзевяці медалёў, Дударэвіч на пенсіі. А скрыпкі дачакаліся. Цалкам настаў іх час.

Пявучым, прыдатным на інструмент, па слова[illegible] майстра, дрэва становіцца п[illegible] 50-гадовай вытрымкі. Ады[illegible]зіць лішак, дрэва перастае заўважаць тэмпературныя і атмасферныя ваганні. Застаецца яго сутнасць. Сваю лепшую скрыпку Дударэвіч зрабіў праз паў[illegible] пасля першай. Ён даска[illegible] вывучыў кнігі вядомых скрыпічных майстроў Е. Вітачака, Т. Падгорнага.

...Дударэвіч бярэ невялікі, памерам з аловак кавалачак чорнага дрэва і кладзе ў міску з вадой. Ён каменем ідзе на дно. Гэта — фернамбук, з якога робіцца смыковая трысцінка.

Міжволі цягне глянуць у акно: ці не красуе на агародзе батанічны сад? Мала таго, што ў скрыпцы 40 дэталяў, дык яшчэ і дрэвы, з якіх іх трэба змайстраваць, растуць ва ўсіх частках свету. У адказ на мой жарт майстар павёў паказваць «скрыпічныя тылы».

У гаражы над варштатам у строгім парадку, бы ў аперацыйнай, размяшчаліся шаблоны, цыклі, долаты, стамескі, напільнікі самага рознага калібру. Усё зроблена сваімі рукамі. Асабліва ўражвае набор гэблічкаў: самы вялікі—памерам з запалкавы карабок, найменшы—яго чвэрць. Цыклі-скрабкі Дударэвіч ухітраецца заточваць не стандартна, а па-свойму — як касу, ад чаго рэжучы край загінаецца ўперад, робіцца надзвычай вострым.

У гаражы майстар шчыруе цёплымі днямі, запасаецца нарыхтоўкамі, робіць іх чарнавую апрацоўку. Пад кроквамі, на гарышчы, як кінуць вокам, відаць пакуначкі, мяшочкі, цурбачкі, рэйкі — усё, што стане плоццю, рамантычным духам інструментаў.

— Верыце, балюча становіцца, калі бярэш у рукі зламаную скрыпку. Альбо няўдалы інструмент з канвеера, — прызнаецца Іосіф Ульянавіч. — Хіба заспявае яна, калі таўшчыня дэкі даходзіць да сямі міліметраў? Наадварот! Усякую павагу да музыкі адаб'е!..

Узброіўшыся сваімі цуд-гэблічкамі, майстар поўнасцю разбірае інструмент і пачынае аперацыю па яго ажыўленню. Асноўнае — зняць лішнюю вагу. Усе скрыпкі Дударэвіча маюць таму дэку таўшчынёй тры міліметры. Залечваюцца трэшчыны, замяняюцца на новыя пашкоджаныя дэталі. Такім метадам да жыцця былі вернуты віяланчэль Гварнэры, скрыпкі Амаці, Гальяні, Падгорнага.

На першы погляд, майстар стварае ўражанне мяккага, уступлівага чалавека. Але за знешняй мяккасцю — сіла, грунтоўнасць, надзейная аснова. Як тая, што Дударэвіч нястомна шукае ў глыбінях дрэва, каб даручыць ёй неўміручае жыццё музыкі. Сам лёс наканаваў яму быць скрыпічным майстрам.

**Мікалай КАЗЛОВІЧ.**

## РАДЫЁСТАНЦЫЯ «САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ» ШТОДЗЁННА ВЯДЗЕ СВАЕ ПЕРАДАЧЫ З МІНСКА

**Тых, хто цікавіцца сённяшнім днём Бацькаўшчыны, ходам перабудовы, абнаўлення ўсіх сфер жыцця нашага грамадства, гісторыяй і сучасным развіццём нацыянальнай культуры, літаратуры, мовы, хто хоча паслухаць творы беларускага музычнага фальклору ці сучасных кампазітараў, запрашаем на перадачы радыёстанцыі «Савецкая Беларусь». Іх можна пачуць штодзённа з 21 гадзіны 30 мінут да 22 гадзін паводле маскоўскага часу (ці з 19 гадзін 30 мінут да 20 гадзін паводле сярэднееўрапейскага часу) на частотах 7330, 9560, 9600, 11780 і 11960 кілагерц (у сераду, суботу і нядзелю яны гучаць на нямецкай мове).**

**Другая наша праграма выходзіць у эфір штодзённа з 00.30 да 01.00 гадзіны паводле маскоўскага часу (ці з 22 гадзін 30 мінут да 23 гадзін паводле сярэднееўрапейскага часу) на частотах 6185, 7300 і 7420 кілагерц.**

**Слухайце перадачы радыёстанцыі «Савецкая Беларусь»!**

**Вашы заўвагі і меркаванні аб іх змесце, прапановы, пажаданні, пытанні дасылайце па адрасу: 220807, г. Мінск, вул. Чырвоная, 4.**

*ЦІКАВА ВЕДАЦЬ*

## КРАЙ БЛАКІТНЫХ АЗЁР

Так нездарма называюць нашу сінявокую Беларусь. Тут звыш 10 тысяч вялікіх і малых азёр, кожнае з іх — своеасаблівае і маляўнічае, па-свойму непаўторнае, мае свой характар... Калі, напрыклад, возера Нарач — вольнае і неспакойнае, а ў буру — свавольнае і пагрозлівае, то Мядзель, што разлілося непадалёку ў аздабленні лясоў і пагоркаў, — найбольш ціхае і лагоднае.

Тут, на поўначы рэспублікі, у некаторых раёнах азёры займаюць больш 10 працэнтаў плошчы, таму Віцебшчыну і поўнач Міншчыны называюць беларускім паазер'ем. Самае глыбокае возера ў Беларусі — 53,6 метра — Доўгае, што ў Глыбоцкім раёне.

Найбольш вялікае возера Палесся — Чырвонае, што ў Жыткавіцкім раёне. Даўжыня яго — 12, шырыня — каля 5,5 кіламетра. Флора і фауна гэтага незвычайнага тарфянога возера непаўторныя. Возера адчайна змагаецца за сваё жыццё, знаходзіць пакуль невядомыя навуцы шляхі да сілкавання, павышэння мінералізацыі вады і ўзбагачэння яе кіслародам, каб забяспечыць ім усё жывое, што існуе тут. Становішча яго ў апошнія гады значна палепшылася, прырода ў наваколлі ажывілася, возера жыве... Летам возера — кавалачак неба, адлюстраванага ў блакітнай вадзе. Вузкая сцяжынка бяжыць уздоўж вады, па якой так і хочацца прайсціся босымі нагамі... Зімой на возеры асабліва ціха. На белым снежным покрыве бачны сляды зайца, рэдкія палонкі рыбакоў, удалечыні — ланцужок цёмнага лесу на беразе...

**Васіль ФЕРАНЦ.**

## спорт

З 16 красавіка па 1 мая ў Стакгольме праходзіла першынство свету па хакею з шайбай. Гэты чэмпіянат выклікаў вялікую цікавасць і ў аматараў, і ў трэнераў, і ў... менеджэраў. Асабліва шмат пытанняў было да зборнай СССР. Справа вось у чым. Савецкая каманда ставіла сваёй задачай вярнуць званне чэмпіёнаў свету, якое яна ўступіла ў Вене ш[illegible]. Трэнеры многіх збо[illegible]х прывезлі на гэты чэмпіянат многа маладых спартсменаў. Асабліва амаладзілася наша хакейная дружына. Ну, а менед[illegible]ры прыехалі ў Швецы[illegible] каб запрасіць у праф[illegible]альныя клубы новых перспектыўных ігракоў. І паглядзець, як кажуць, у справе вядомых: Макарава, Фяцісава, Ларыёнава — савецкіх спартсменаў, з якімі ўжо даўно вядуцца перагаворы аб пераходзе.

Кропкі над «і» былі зняты адразу пасля завяршэння першынства. Зборная СССР вярнула сабе званне чэмпіёна: дзесяць сустрэч—дзесяць перамог! Праўда, гульні для яе лёгкімі не назавеш. Асабліва напружанымі былі яны ў фінале са зборнымі ЧССР—1:0 і Канады—5:3. І толькі мінулы чэмпіён, зборная Швецыі, уступіў нам даволі лёгка—1:5.

Добра бачна, што змена пакаленняў праходзіць у нашай камандзе паспяхова, а «старая гвардыя» выклікала сваёй гульнёй у аматараў, тэлегледачоў і ў саміх менеджэраў сапраўднае захапленне. Вось чаму ў сімвалічную зборную свету адразу пасля заканчэння чэмпіянату ўвайшлі і навічкі, і ветэраны: варатар Гашак (ЧССР), абаронцы Фяцісаў (СССР), Эльдэбрынк (Швецыя), нападаючыя Макараў, Быкаў (усе СССР) і Айзерман (Канада).

## ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

Кулявец Вольга Рыгораўна просіць адгукнуцца родных і звяртаецца да ўсіх, каму што-небудзь вядома пра іх, з просьбай паведаміць ёй аб гэтым.

Яе дзядзька Юркевіч (Юрэвіч) Андрэй Яфімавіч, прыкладна 1908-1909 года нараджэння, нарадзіўся і жыў у Беларусі ў вёсцы Будзенічы Старадарожскага раёна Мінскай вобласці. У 1944 годзе быў разам з сям'ёй вывезены ў Германію. З ім знаходзіліся жонка і тры сыны — старэйшы Анатоль, сярэдні — здаецца, Уладзімір, імя малодшага не памятае. Жонка Андрэя Яфімавіча памерла ў 1944 годзе.

У Андрэя Юркевіча было некалькі сясцёр і брат. Усе яны памерлі. Сястра, Вольга Яфімаўна, і брат, Лука Яфімавіч, жылі ў вёсцы Будзенічы.

Сястра, Гнядзько Марфа Яфімаўна (народжаная Юрэвіч) 1889 года нараджэння жыла ў вёсцы Ольніца (цяпер Глускі раён Магілёўскай вобласці). Яе мужам быў Гнядзько Рыгор Дзянісавіч. Іх дочкі Ганна, Вольга і Марыя жывуць у Беларусі, хочуць звязацца з сям'ёй дзядзькі, якая нібыта жыве ў Аўстраліі.

Просім пісаць па адрасу:

**БССР, 213815, горад Бабруйск Магілёўскай вобласці, вуліца Прыгарадная, дом 37, кватэра 2. Кулявец Вользе Рыгораўне.**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

**НАШ АДРАС:**

**МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Індэкс 63854. Зак. 515